Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 040
Адрас для карэспандэнцыі: 220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Пятніца, 30 кастрычніка 1998 г. № 117 (509) Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Паслы сядзяць дома

**Беларускія амбасады ў Лондане, Боне і Вашынгтоне ўжо чатыры месяцы працуюць без нашых паслоў. Амбасадары сядзяць у Мінску і змогуць вярнуцца на Захад толькі пасля вырашэння канфлікту вакол Драздоў.**

Нагадаем, што менавіта «драздоўскі» скандал стаў прычынай адпраўкі беларускіх паслоў з заходніх сталіцаў. Чым жа яны займаюцца ў Мінску. Напрыклад, пасол Уладзімір Шчасны, вярнуўшыся з Лондана, ходзіць на працу ў МЗС, дзе, па яго словах, займаецца *«развіццём брытана-беларускіх адносінаў»*. Цяпер працягваюцца кантакты ў галіне культуры, адукацыі і гуманітарнай дапамогі. У.Шчасны пакуль не ведае, калі ён вернецца ў Брытанію. Па яго словах, *«гэта залежыць ад таго, калі будзе ўрэгуляваны канфлікт з Драздамі»*.

Пяты месяц сядзіць у Мінску пасол у ЗША Валерый Цэпкала, які таксама штодня ходзіць на працу ў знешнепалітычнае ведамства і слухае антыамерыканскія заявы свайго шэфа. Інакшы лёс напаткаў нашага пасла ў Германіі. Пётр Бяляеў таксама вярнуўся з Бона ў сувязі са скандалам, які разгараўся летам. Але 15 верасня прэзідэнт Лукашэнка адправіў П.Бяляева ў адстаўку «па ўласным жаданні». На месца Бяляева пакуль ніхто не прызначаны.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Шэсце ў Курапаты

**Беларускі Народны Фронт правядзе 1 лістапада шэсце ў Курапаты.**

З мінскай плошчы Якуба Коласа калона рушыць а 12-й гадзіне. З 15:30 да 16:30 ва ўрочышчы Курапаты адбудзецца жалобны мітынг. Заяўленая колькасць удзельнікаў акцыі — ад 5 тысяч чалавек.

*БелаПАН*

# Па 400 долараў ахвярам Халакоста

*Учора ў Мінску швейцарскія банкі пачалі выдаваць долары ахвярам фашысцкага генацыду*

Улады Швейцарыі разам з банкамі заснавалі фонд, які выплаціць кампенсацыі вязням гета і фашысцкіх канцлагераў міжнароднай кваліфікацыі (такіх, як Асвенцым і Бухенвальд). Беларускі фонд «Узаемапаразуменне і прымірэнне» склаў спіс 609-ці грамадзянаў нашай краіны, якія атрымаюць гэтую кампенсацыю. Усім выдадуць аднолькавую суму — па 400 амерыканскіх долараў.

На афіцыйнай цырымоніі швейцарскія кампенсацыі атрымалі пяць нашых грамадзянаў. Дваім цяжка хворым грошы прывезлі дахаты. На цырымонію ў Мінск прыехаў прэзідэнт швейцарскага фонду ахвяраў Халакоста Рольф Блох і сакратар Барбара Эквал.

Як нам паведаміў старшыня фонду «Узаемапаразуменне і прымірэнне» Валянцін Герасімаў, першымі швейцарскія грошы атрымаюць старыя людзі, год нараджэння якіх 1898—1921. Вядомы мастак Міхаіл Савіцкі нарадзіўся ў 1922 годзе, таму ён атрымае 400 долараў ад швейцарскіх банкаў пазней. З вязнямі канцлагераў і яўрэямі праблемаў не будзе, бо фонд ужо мае добрую базу дадзеных. А вось падлічыць цыганоў, якія таксама лічацца ахвярамі Халакоста і маюць права на швейцарскія кампенсацыі, будзе вельмі складана.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**



*На здымку: прэзідэнт швейцарскага фонду Рольф Блох і 83-гадовы Аляксандр Кашуба, былы вязень Бухенвальда.*

## Чакаецца саміт СНД

Чарговае пасяджэнне Савета кіраўнікоў дзяржаваў (СНД) плануецца правесці да канца гэтага года. Дакладныя тэрміны сустрэчы прэзідэнтаў пакуль не называюцца, аднак арыенціровачна яна павінна адбыцца ў сярэдзіне снежня.

Нагадаем, што апошні раз кіраўнікі краінаў СНД сустракаліся ў Маскве 29 красавіка. Тады новым выканаўчым сакратаром Садружнасці быў прызначаны вядомы расійскі палітык і бізнесмен Барыс Беразоўскі і была адобраная ідэя правядзення Спецыяльнага міждзяржаўнага форуму па пытаннях рэфармавання СНД.

*БелаПАН*

## Кіно ў абарону правоў чалавека

Міжнародны кінафестываль, які пачнецца ў канцы лістапада ў Мінску, будзе прысвечаны абароне правоў чалавека. Яго спонсарамі з'яўляюцца прадстаўніцтва ААН у Беларусі, фонд Форда і пасольства Швецыі. Прэзідэнтам фестывалю абрана пісьменніца Святлана Алексіевіч. Будуць дэманстравацца кінастужкі са Швецыі, Германіі, Польшчы, ЗША, Грузіі і іншых краінаў.

**А.Д.**

## 2 лістапада – Дзень Мовы

**З такой ініцыятывай выступілі рэдакцыя газеты «Наша Ніва», аднайменны гуманітарны фонд і шэраг іншых няўрадавых арганізацыяў.**

Скарыстаўшыся прыкладам Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, якая раз у год праводзіць Дзень без цыгарэты, ініцыятары прапануюць 2 лістапада правесці беларускі Дзень без чужога слова.

**Б.П.**

## Дзеці знаходзяць бацькоў

**У Нацыянальным цэнтры ўсынаўлення ў Мінску знаходзіцца каля ста заяваў грамадзянаў Італіі на ўсынаўленне беларускіх сірот.**

Выхаванец Радашковіцкай школы-інтэрната Дзіма Жалудок стаў першым беларускім дзіцем, якога ўсынавіла італьянская сям'я. У Радашковічы Дзіма трапіў з інтэрната для дзяцей з дрэнным зрокам, а сваіх будучых прыёмных бацькоў Аноніо Арлокі і Марыю Наполі сустрэў у Італіі, куды тры гады таму з іншымі дзецьмі-сіротамі прыехаў на аздараўленне. Хлопчык прайшоў курс лячэння ў італьянскіх афтальмолагаў.

*БелаПАН*

# «Хто апошні?», «Што даюць?»

*Карэспандэнт нашай газеты прайшоўся ўчора па сталічных крамах у пошуках дэфіцытаў*

«Хто апошні?» і «Што даюць?» — найбольш папулярныя пытанні ў мінскіх крамах. Дый не толькі ў мінскіх. У Беларусь вярнуўся дэфіцыт. І разам з ім — чэргі.

Спачатку з крамаў знікла масла. Потым — цукар. Сёння ў мінскіх крамах — як шыкоўных, «заходніх», з адносна ветлівым персаналам і надзвычай высокімі коштамі на імпартныя прадукты, так і ў «савецкіх», з хамаватымі прадаўшчыцамі і заўсёды паўпустымі паліцамі — цяжка альбо немагчыма набыць масла, курэй, цукар, яйкі...

У краме фірмовага гандлю першай мінскай птушкафабрыкі гандлююць малаком, сырам і гарэлкай. Няма ні яек, ні птушкі. *«Прыходзьце ў другой палове дня — будуць яйкі»*, — кажа пазяхаючы дзяўчына. І адразу скардзіцца: *«Раней нам, як завязуць яйкі, дык іх на тры дні хапала. А цяпер размятаюць за трычатыры гадзіны. Так што прыходзьце. Праўда, чэргі заўсёды вялікія»*.

У другую фірмовую краму яйкі ўжо прывезлі. Таму ў магазін немагчыма нават увайсці — усё памяшканне забітае людзьмі, некаторыя стаяць з вёдрамі. Агульная колькасць жадаючых — 200-250 чалавек. Прадаўшчыца ўжо стамілася тлумачыць, што можа прадаць не болей за два дзесяткі яек. Таму прадпрымальныя сугрмадзяне займаюць чаргу па другім-трэцім разе. Побач з крамай стаіць дзве машыны «хуткай дапамогі» — ці то за яйкамі прыехалі, ці выратоўваць магчымых ахвяраў.

Вялікі магазін у цэнтры горада. За таннай свінінай (112 тысяч рублёў) стаіць не менш за 50 чалавек. Персанал крамы просіць не займаць чаргу — свініна заканчваецца, але ніхто не разыходзіцца. З птушкі на прылаўку ляжаць толькі індычкі і качкі — «ветэраны маразільніка» чорна-трупнага колеру. На іх ніхто і не глядзіць. Можна яшчэ набыць «ножкі Буша» — курыныя кумпячкі з Амерыкі. Але занадта дорага — 264 тысячы рублёў за кілаграм. Беларускія бройлеры каштуюць удвая танней — але іх няма.

Ва універсаме «Цэнтральны» прыгадалі, што напярэдадні ў іх быў цукар. Бабка, што стаяла побач, умешваецца ў размову: *«Я ўчора і з раніцы тут была, і пасля абеду, але цукру не бачыла!»*

Цукар ёсць на Камароўскім рынку. І нават без чаргі — 75 тысяч за кілаграм. А дзесятай гадзіне раніцы на «Камароўцы» гандаль курамі і яйкамі яшчэ не пачынаўся. Але чэргі ўжо стаяць. На адкрытай пляцоўцы адна чарга стаіць каля зачыненай яшчэ машыны. У чарзе — чалавек 70. Пытаюся у цёткі, што стаіць адной з першых: «За чым стаіце?». Паціскае плячыма. Можа, за курамі, а мо і за яйкамі. Побач стаіць другая чарга — не меней за 100 чалавек. Яны добра ведаюць, за чым стаяць — за яйкамі. Але машына пакуль не прыехала. Таму нейкім дзікунствам выглядае гэтая чарга, што пачынаецца літаральна ад пустога месца, але сварка «Вы тут не стаялі!» — непазбежны атрыбут любой чаргі — ужо ідзе.

Не лепей становішча і на крытым рынку. Дзве чаргі, чалавек па 120, стаяць да пустых прылаўкаў. Куранятаў-бройлераў ужо прывезлі, але яшчэ не прадаюць. Асноўны кантынгент чэргаў — пенсіянеры, але трапляецца і моладзь. Яны таксама хочуць набыць танныя прадукты.

Дэфіцыт — гэта кепска. Але куды горш за дэфіцыт — тое, што яшчэ адно пакаленне прывучаецца жыць у чэргах. Яйкі, куры і цукар калі-небудзь з'явяцца ў продажы. Гэта не вельмі цяжка зрабіць. Куды цяжэй потым будзе выбіць, выдавіць з сябе брыдкія савецкія выразы «Хто апошні?», «Што даюць?» і «Вас тут не стаяла!»

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

*(Працяг тэмы на стар.3)*




*На здымку: чарга за яйкамі і курамі на Камароўскім рынку.*

# Папу чакаюць у Беларусі

## *Афіцыйны Мінск зацікаўлены ў візіце Папы, але ці ўдасца дамовіцца з Патрыярхам Маскоўскім*

**Папа Рымскі Ян Павел II атрымаў ад кардынала Казіміра Свёнтака афіцыйнае запрашэнне наведаць Беларусь.**

Як мы ўжо паведамлялі, у адказ на запрашэнне рымскі пантыфік сказаў: «Калі Бог дазволіць — прыеду». Але ці так проста Святому Айцу прыехаць у нашую краіну. Ян Павел II з'яўляецца кіраўніком не толькі каталіцкага касцёла, але і дзяржавы Ватыкан, таму дзеля прыезду ў любую іншую краіну яму патрэбнае запрашэнне не толькі старшыні мясцовага каталіцкага епіскапату, але і кіраўніка дзяржавы.

Паводле нашых звестак, прадстаўнікі каталіцкага Касцёла не раз спрабавалі весці з беларускімі ўладамі перамовы на тэму афіцыйнага запрашэння Яна Паўла II у Беларусь. Напрыклад, яшчэ тры гады таму тагачасны прадстаўнік Ватыкана ў Мінску арцыбіскуп Аўгустына Маркета спрабаваў пераканаць міністра замежных справаў Уладзіміра Сянько ў патрэбнасці і неабходнасці папскага візіту. Улады тады далі зразумець, што зацікаўленыя ў такім візіце, але ж, маўляў, супраць будзе кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы.

Нагадаем, што адносіны Маскоўскага патрыярхату з Ватыканам даволі напружаныя. РПЦ абвінавачвае Рым у наступе каталіцызму на яе кананічную тэрыторыю, а таксама ў падтрымцы грэка-каталіцкай (уніяцкай) царквы ў Заходняй Украіне. Менавіта дзякуючы супрацьдзеянню РПЦ у 1991 годзе не адбыўся візіт Папы ў СССР, хаця тады і была дасягнутая прынцыповая згода Міхаіла Гарбачова. Пасля распаду Савецкага Саюза Ян Павел II толькі адзін раз пабываў на тэрыторыі колішняга Саюза — у 1993 г., наведаўшы тры прыбалтыйскія краіны, на палітыку якіх Масква не аказвае ніякага ўплыву, а праваслаўе з'яўляецца там рэлігійнай меншасцю.

У Беларусі ж каталіцызм хоць і з'яўляецца традыцыйнай канфесіяй і адкрыта не супрацьстаіць праваслаўю, тым не менш Маскоўскі патрыярхат небесспадстаўна лічыць, што прыезд Папы ў нашую краіну можа паспрыяць рэлігійнаму каталіцкаму ўздыму. Каталіцызм у Беларусі і цяпер развіваецца больш дынамічна, чым праваслаўе, сведчаннем чаму з'яўляецца імклівы рост парафіяў гэтай канфесіі па ўсёй краіне.



Наколькі нам вядома, год таму прадстаўнікі кардынала Свёнтака звярталіся ў адміністрацыю Лукашэнкі з прапановай накіраваць у Ватыкан афіцыйнае запрашэнне, каб Ян Павел II змог наведаць Беларусь летам 1997 г. Але якраз у той час Маскоўскі Патрыярх Алексій II адмовіўся сустракацца з рымскім пантыфікам у Вене, і беларуская ўлада вырашылі не разглядаць просьбу каталікоў, маўляў, візіт цяпер немэтазгодны.

І вось цяпер кардынал Свёнтак асабіста запрасіў Папу. Праўда, амбасада Ватыкана пакуль не падымала гэтага пытання перад уладамі Беларусі. Як нам паведаміў нунцый Апостальскай Сталіцы арцыбіскуп Дамінік Грушоўскі, ці адбудзецца візіт Святога Айца ў Беларусь, цяпер цалкам залежыць ад прэзідэнта Лукашэнкі. Па словах амбасадара, Папа вельмі хоча прыехаць у нашую краіну і заклікае беларускіх вернікаў маліцца за тое, каб такі візіт адбыўся.

Цяпер беларуская ўлады зноў глядзяць на рэакцыю праваслаўнай Царквы. У размове з нашым карэспандэнтам, адзін высокапастаўлены чыноўнік з прэзідэнцкай адміністрацыі сказаў, што Аляксандр Лукашэнка павінен лічыцца з думкай «царквы большасці». Па ягоных словах, прыезд Папы ў Беларусь — справа вельмі далікатная, і каталікі павінны самі дамовіцца з кіраўніцтвам праваслаўнай Царквы. Праўда, візіт Яна Паўла II можа прынесці немалыя палітычныя дывідэнды Лукашэнку, таму ўлады таксама не застаюцца ў баку ад яго падрыхтоўкі. Як паведаміў учора журналістам міністр замежных справаў Беларусі Іван Антановіч, супрацоўнікі яго ведамства цяпер вядуць на гэтую тэму актыўныя кансультацыі з расійскім МЗС і кіраўніцтвам Маскоўскага патрыярхату.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# Транспарт і тэлефон падаражэюць

**Як ужо паведамляла нашая газета, з 1 лістапа да ў Мінску падвысіцца кошт праезду ў гарадскім наземным транспарце.**

Талончык на трамвай, тралейбус і аўтобус будзе каштаваць 3 тысячы рублёў. Аднак першыя часы будзе сапраўдны і стары талончык па 2.600.

Падвысіцца і кошт праезду ў таксі. З 1 лістапада кожная паездка будзе каштаваць 15 тысяч рублёў за кіламетр. Менавіта такую максімальную планку ўстанавіла міністэрства транспарту. Канешне, таксапаркі могуць паставіць і меншы кошт, але наўрад ці яны ў гэтым зацікаўленыя — кліентаў ад гэтага не паболее.

Чакаецца, што напачатку лістапада падаражаюць паслугі тэлефоннай сувязі. Абаненцкая плата за хатні тэлефон складзе 29 тысяч рублёў. Тэлефонныя размовы ў межах горада падаражэюць на 10-20 працэнтаў, на столькі ж — званкі па Беларусі. А вось за тэлефонныя перамовы з замежнымі краінамі давядзецца плаціць больш на 30 працэнтаў.

**Міхась КАРПОВІЧ**

# Пракурор прасіў 20 гадоў

## *Былы баец Брэсцкага амона Сяргей Курыловіч асуджаны да 19 гадоў турмы*

**Брэсцкі абласны суд прызнаў яго вінаватым у забойстве жыхара Кобрына. Пракурор прасіў даць Курыловічу 20 гадоў пазбаўлення волі.**

Гэта здарылася сёлета ў сакавіку. Курыловіч прыехаў у Кобрын у складзе групы 15-ці амонаўцаў. Кіраваў імі камандзір атрада Алег Максюта. У рэстаране гатэля, дзе спыніліся змагары з кантрабандыстамі, і завязалася сварка паміж Курыловічам і мясцовым жыхаром Віктарам Васілюком. Спачатку амонавец ударыў Васілюка нагой, а потым завяршыў «баявую аперацыю» стрэлам з табельнага пісталета. Паранены ў шыю Васілюк праз дзень памёр.

Дарэчы, гэты інцыдэнт быў не першай плямай у гісторыі Брэсцкага атрада. Скандалы яго пераследуюць даўно. Да прыкладу, год таму падначаленыя Максюты ўчынілі налёт на лазню ў вёсцы Чэрні, пад Брэстам. Ад дубінак «сілавікоў» тады пацярпелі невінаватыя, у тым ліку старшыня мясцовага сельсавета. Але падобныя выпадкі «перавыхавання паўнамоцтваў» праходзілі для амонаўцаў беспакарана. Не дзіва, што хутка байцы пачалі гэтак жа лёгка, як дубінкі, выкарыстоўваць агнястрэльную зброю.

Яшчэ да суда тры амонаўцы, якія ўдзельнічалі ў інцыдэнце ў кобрынскім гатэлі, былі з атрада звольненыя. Зняты з пасады і іхні камандзір Алег Максюта. Але родным забітага ад гэтага не лягчэй.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

# Баптысты будуюць храмы за свае грошы

**Сёлета каля 20-ці малельных дамоў евангельскіх хрысціян-баптыстаў адкрылася ў Беларусі. Пра гэта нам распавёў старшы прэсвітэр цэркваў ЕХБ Аляксандр Фірысюк.**

Па ягоных словах, нашая дзяржава не дала ніводнай капейкі на будаўніцтва малельных дамоў, узводзіліся яны выключна на ахвяраванні вернікаў. Гэтай восенню малельныя дамы асвяцілі ў Гарадзішчы на Брэстчыне, у Рагачове, Калінкавічах, Глыбокім і ў Шэпелевічах на Магілёўшчыне. Два малельныя дамы рыхтуюцца да асвячэння ў Мінску. Кожны год у евангельскіх хрысціян-баптыстаў рукапакладаюць каля 50 святароў.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Прэса ў цане. Асаблівa незалежная

**У Беларусі пачалася падпіска на газеты і часопісы на першае паўгоддзе 1999 года.**

Па стану на 27 кастрычніка ў падпісныя каталогі былі ўключаныя назвы 198 газет і 200 часопісаў Беларусі, а таксама 374 газет і 2.113 часопісаў з 13 краінаў блізкага і далёкага замежжа.

У сувязі з сур'ёзнымі цяжкасцямі, якія адчуваюць СМІ ў выніку расійскага фінансавага крызісу, кошт падпіскі на беларускія выданні на першае паўгоддзе 1999 года ў параўнанні з другім паўгоддзем 1998 года прыкметна ўзрос. Да прыкладу, паўгадавы камплект «Советской Белоруссии», «Народнай газеты» і «Рэспублікі» падаражэў на 67 працэнтаў (са 180 да 300 тысяч рублёў за кожнае выданне), «Звязды» — на 65% (са 174 да 288 тысяч).

Значна большым аказалася павелічэнне падпісной цаны ў незалежнай прэсы. Лідэрам росту аказалася газета «Здравый смысл»: паўгадавая падпіска на гэтае выданне падаражэла ў 5 разоў (са 120 да 600 тысяч рублёў). «Свободные новости» абыдуцца даражэй у 3 разы (450 замест 150 тысяч), «Навіны» — у 2,5 раза (600 замест 240 тысяч), «Белорусская деловая газета» — у 2,3 раза (960 супраць 420 тысяч), «Народная воля» — у 2,2 раза (600 замест 270 тысяч). У цэлым падпіска на вядучыя дзяржаўныя выданні падаражэла ў 1,6 раза, тады як на вядучыя незалежныя — у 2,6 раза.

Па-рознаму адрэагавалі на крызіс расійскія выданні. Калі «Известия» падаражэлі на 12 працэнтаў (з 489,6 да 549 тысяч рублёў), то «Комсомольская правда» — на 93 працэнты (з 610,2 тысячы да 1 мільёна 180,2 тысячы), а «Аргументы и факты» — у 2,5 раза (з 308,4 да 768,6 тысячы рублёў).

Сярод беларускіх выданняў самая дарагая падпіска ў спартыўнай газеты «Прессбол» (1 мільён 800 тысяч рублёў), сярод замежных выданняў — у англійскай «Таймс» (167 мільёнаў 563,6 тысячы рублёў).

*БелаПАН*



# Другое з'яўленне «Габелена стагоддзя»

**У нядзелю, 1 лістапада, у Мінску будзе выстаўлены для публікі «Габелен стагоддзя» народнага мастака Беларусі Аляксандра Кішчанкі.**

Гэты дыван-карціну выткалі ўручную за 27 месяцаў 14 ткачых Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва. Вышыня габелена складае 19 метраў, а шырыня — 14. Адзінае памяшканне, дзе можна размясціць для дэманстрацыі гэты унікальны твор, знаходзіцца ў мінскім цэнтры «Белэкспа» на праспекце Машэрава, 14. Менавіта тут прайшла першая прэзентацыя «Габелена стагоддзя», які называюць яшчэ «палітычным паноптыкумам XX стагоддзя». На ім адлюстраваныя многія палітычныя фігуры, сярод якіх дыктатары і дэмакраты, а таксама выбітныя дзеячы культуры. Ёсць на палатне і выява прэзідэнта Лукашэнкі.

Пасля доўгай паўзы габелен зноў будзе выстаўлены ў «Белэкспа», але толькі на адзін дзень з 12 да 18 гадзінаў. Акцыя прымеркаваная да Дзядоў і 2000-годдзя хрысціянства. У жыхароў сталіцы будзе магчымасць бясплатна ўбачыць не толькі габелен, але і некаторыя іншыя творы Аляксандра Кішчанкі. Тут жа будуць распаўсюджвацца плакаты з выявамі габелена, а выручаныя грошы «Галерэя Штандарт», якая ладзіць выставу, перадасць на будаўніцтва царквы.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**



***На здымку: адзін з фрагментаў «Габелена стагоддзя». Такія і іншыя падобныя плакаты можна будзе набыць на выставе.***

# Рэйкі ў Крэмль змазваюць нашым маслам

Канстанцін **СКУРАТОВІЧ**

За апошнія гады я ўжо прывык да таго, што ўсё неабходнае для стала магу купіць за трыццаць хвілін пасля працы ў суседніх з рэдакцыяй гастраноме ды булачнай.

Цяпер жа — чэргі, дарагавізна, нормы водпуску... Прадаўшчыца з малочнага аддзела крычыць касірцы: кефір (тварог, сыр, масла...) не выбівыць. Таму часцяком прыходзіцца сноўдацца па іншых крамах або вяртацца дадому з пустою торбай.

Хто ж з'еў усе тыя прысмакі, што нядаўна красаваліся на вітрынах і паліцах? Зразумела, ні расійскія манахі, якім Беларусь дапамагла гуманітарна, ні ахвяры кітайскіх паводак, якім Лукашэнка па паветры адправіў 20 тон сыроў, у гэтым не вінаватыя. Бо манахам ад тае дапамогі, а тым больш мільярду кітайцаў, наедак невялікі. А вось дзяржпастаўкі харчавання ў Расію на суму ў 200 мільёнаў долараў — гэта ўжо сур'ёзна.



Беларускія мясакамбінаты працягваюць працаваць, але мяса не несталькі шмат, каб хапіла і беларусам і расіянам.

Справа ў тым, што з пачатку года наш аграпром (і калгасы, і прыватны сектар) вырабілі прадукцыі на 171 трыльён рублёў, што, па курсу «жывых» грошай, складае ўсяго 800 мільёнаў долараў. Каля паловы прыпадае на прыватны сектар, прадукцыя якога амаль не трапляе да шэраговага пакупніка, бо сяляне прадаюць на рынку толькі так званыя «ізлішкі». Да таго ж сукупная валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі ўключае ў сябе не толькі малако і мяса, але кармавыя караняплоды, льновалакно і іншыя тавары, якія ў ежу чалавека не ідуць.

Вось і атрымоўваецца, што з прадукцыі, коштам у 400 мільёнаў, выраблена калгасамі і саўгасамі, большая частка ахвяруецца для Расіі. Зразумела, што для яе, як той гуманітарны сыр для Кітая, гэта кропля ў моры.

А для нас? Чытач, можа, не здагадваецца, што наша калектыўная гаспадарка ў гэтым годзе па прагнозах выробіць на чалавека ўсяго 27 кілаграмаў мяса (каля 35% ад фізіялагічнай нормы) і 170 кілаграмаў малака (каля 40% ад тае нормы). Паменшыце гэтыя лічбы ўдвая, і стане зразумела, што патрэбна думаць аб тым, як дажыць да першай лебяды.

Наш жа правадыр, што відавочна, на гэта не звяртае ніякай увагі. Яму важней «договориться с российскими регионами», каб тыя дапамаглі хутчэй даехаць з Мінска ў Маскву, калі настане для гэтага адпаведны час. Але чаму мы дапамагаем яму харчаваннем? Хай сабе едзе «на галодны страўнік». Злейшы будзе. А мы тым часам разбярэм за ім рэйкі і зноў укапаем пагранічныя слупы, як тое і павінна быць.



*Большинство наших граждан даже не знают о том, что Беларусь входит в число стран, на которые распространяется действие Всеобщей декларации прав человека*

# Кто же прав?

## *Тот, у кого больше прав?*

Полувековой юбилей Всеобщей Декларации прав человека отмечает весь мир. Но, как свидетельствуют результаты социологического исследования, представления наших сограждан об этом документе весьма далеки от определенности. Лишь каждый четвертый из опрошенных (24,2%) знает о том, что Беларусь входит в число стран, на которые распространяется действие Всеобщей декларации прав человека. Большинство же респондентов (67,4%) не смогли высказать определенного мнения по этому вопросу. Остальные (8,5%) ответили отрицательно.

**А что думают белорусы о том, в какой степени соблюдаются права человека в нашем государстве?**

| ПРАВА: | Всегда соблюдаются | Не всегда соблюд. | Не соблюд. |
|---|---|---|---|
| - на достойный уровень жизни | 10,4 | 47,2 | 40,0 |
| - на труд и соответствующее вознаграждение | 13,4 | 53,5 | 30,4 |
| - на благоприятную окружающую среду | 14,6 | 47,5 | 33,3 |
| - на свободу мнений, убеждений и их выражения | 18,8 | 54,7 | 21,7 |
| - на равенство перед законом | 21,5 | 45,9 | 27,3 |
| - на охрану здоровья | 23,1 | 55,0 | 17,3 |
| - на свободу объединений | 26,1 | 51,0 | 13,9 |
| - на свободу собраний, митингов, шествий | 27,7 | 50,3 | 17,5 |
| - на защиту от вмешательства в личную жизнь | 29,6 | 49,5 | 16,9 |
| - избирать и быть избранным в госорганы | 35,9 | 43,5 | 14,9 |
| - на свободу передвижения, выбор места жительства | 43,0 | 40,1 | 12,8 |
| - на отдых | 47,0 | 40,0 | 9,1 |
| - на образование | 52,0 | 34,5 | 9,5 |
| - на национальное самоопределение | 52,7 | 32,2 | 9,6 |
| - на свободу вероисповедания | 62,0 | 22,2 | 5,8 |

*(в представленной таблице опущены данные о не ответивших на вопрос, поэтому сумма по каждой строке несколько меньше 100%)*

Судя по полученным результатам, ситуация с соблюдением прав человека оценивается респондентами как весьма далекая от благополучной. По мнению опрошенных, в наибольшей степени ущемлены права белорусских граждан на достойный уровень жизни, на труд за соответствующее вознаграждение и на благоприятную окружающую среду. Заметим, что положение с правом на отдых не столь критическое — 47,0% опрошенных уверены в его неукоснительном соблюдении.

В том, что белорусы всегда могут реализовать свое право на свободу мнений, убеждений и их выражения убеждены лишь 18,8% участников опроса, а 76,4% респондентов с этим не согласны. С этим связаны и оценки возможностей проявления гражданской активности в таких формах, как создание объединений, проведение собраний, иных публичных акций. Большинство опрошенных считают, что не всегда (либо вовсе не) соблюдаются права белорусских граждан на свободу ассоциаций (64,9%), свободу собраний, митингов, шествий (67,8%).

Более половины опрошенных полагают, что всегда соблюдаются права белорусских граждан на образование, национальное самоопределение и свободу вероисповедания. Мнения же относительно соблюдения права на равенство перед законом разделились следующим образом. Крайних позиций — либо «соблюдается всегда», либо «не соблюдается» — придерживаются примерно одинаковые группы (примерно по одной четверти массива). Полагают,что это право соблюдается не всегда, то есть может соблюдаться, а может и нет, вдвое больше (около половины опрошенных).Однако в отношении основополагающего принципа равенства перед законом такое положение едва ли можно признать нормальным.

По поводу прав бытует известная присказка: «у кого больше прав, тот и прав». Но возникает естественный и вечный вопрос: а кто же виноват? Кто же виноват в том, что не соблюдаются права большинства граждан? И ответ, казалось бы, очевиден...

*Исследование проводилось в рамках проекта «Развитие информационной инфраструктуры рыночной экономики Беларуси», осуществляемого НИСЭПИ при содействии Центра международного частного предпринимательства (CIPE, США).*

# Рынкі будуць баставаць?

**Гродзенскі прафсаюз дробных прадпрымальнікаў заклікаў сваіх калег з іншых гарадоў Беларусі прыняць актыўны ўдзел у агульнанацыянальнай акцыі пратэсту.**

Гродзенцы заклікаюць гандляроў з іншых рэгіёнаў краіны 4—5 лістапада спыніць работу на ўсіх рынках Беларусі. Як адзначаецца ў прафсаюзным звароце, прыватныя прадпрымальнікі вымушаныя пайсці на такі крок, паколькі ніводнае з 20 іхніх патрабаванняў, выкладзеных на агульнабеларускай нарадзе кіраўнікоў прадпрымальніцкіх структураў, не было выканана ўладамі. *«Нас працягваюць душыць эканамічна, нашыя сем'і даводзяць да галечы, нас прыніжаюць і здзекваюцца»,* — гаворыцца ў звароце.

**Язэп СІНІЦКІ**

# Адвакат павінен маўчаць!

**Мінская гарадская калегія адвакатаў папярэдзіла В.Страмкоўскую аб непажаданасці распаўсюджвання прафесійнай інфармацыі праз міжнародныя арганізацыі**

27 кастрычніка вядомы беларускі адвакат Вера Страмкоўская, якая бярэ ўдзел у шэрагу гучных спраў з так званай «палітычнай афарбоўкай», была выклікана на паседжанне прэзідыума Мінскай гарадской калегіі адвакатаў. Падставай сталі шматлікія звароты міжнародных праваабарончых арганізацыяў у падтрымку Страмкоўскай, якія паступілі ў розныя беларускія інстанцыі, АБСЕ, Еўрапарламент і іншыя структуры.

Нагадаем, што ў верасні гэтага года Вера Страмкоўская разам з былым суддзёй Канстытуцыйнага суда Беларусі Міхаілам Пастуховым знаходзілася ў ЗША. Падчас сустрэчаў з прадстаўнікамі амерыканскіх і міжнародных праваабарончых арганізацыяў В.Страмкоўская гаварыла аб невыкананні правоў чалавека ў Беларусі, а таксама аб незаконнасці дзеянняў беларускіх уладаў у дачыненні да яе падабаронных. Пасля вяртання з паездкі 12 кастрычніка В.Страмкоўскую выклікалі ў міністэрства юстыцыі РБ, дзе ёй было заяўлена, што яе выказванні ў ЗША быццам парушаюць прафесійную этыку і тайну следства, у сувязі з чым яна можа быць пазбаўлена ліцэнзіі на права займацца адвакацкай дзейнасцю.

На паседжанні прэзідыума гарадской калегіі адвакатаў В.Страмкоўскую папярэдзілі аб непажаданасці распаўсюджвання прафесійнай інфармацыі праз міжнародныя арганізацыі і аб неабходнасці быць карэктнай пры дачы інтэрв'ю. Аднак адвакат адстойвала правамернасць усіх сваіх дзеянняў.

У гутарцы з журналістамі пасля паседжання калегіі В.Страмкоўская выказала ўпэўненасць у тым, што цяпер яе дзейнасць будзе на асобым кантролі і самы малы повад можа быць скарыстаны для пазбаўлення адвакацкай ліцэнзіі.

*БелаПАН*




**Пра якія правы чалавека ў Беларусі можа быць гаворка, калі нават дэпутаты парламента становяцца ахвярамі беззаконня.**

*На здымку: дэпутаты Анатоль Лябедзька, Павел Знавец, Станіслаў Багданкевіч, Аляксандр Дабравольскі стаяць у пікеце каля турмы, у якой сядзяць іхнія калегі-парламентарыі.*

НАВІНЫ
30 кастрычніка 1998 г., № 117 (509)

# Красная колонна

## *Из цикла «Частное мнение гражданина Старикевича»*



Союз демократов с коммунистами — брак, заключенный в аду. Неприемлемость этого альянса как из моральных, так и из прагматических соображений, была очевидна изначально. Поэтому сейчас, когда он распадается на глазах, обсуждать было бы и вовсе нечего, если бы не одно «но».

Побочным эффектом этих странных игрищ стали попытки изменить отношение нормальной части общества к коммунистам. Нам начали объяснять, что они хоть и «красные», но в душе тоже приличные люди. Коммунистической идее стремятся придать респектабельность, чтобы ее носители были вхожи в приличные дома. Поэтому приходится вновь возвращаться к теме, которая давно исчерпана.

**ДАЖЕ ЕСЛИ** рассматривать эту ситуацию исключительно с позиции сегодняшнего дня, компартия в Беларуси не имеет права на существование, поскольку эта организация официально ставит своей целью ликвидацию государственности нашей страны. Возрождение СССР является приоритетной целью как КПБ, так и ПКБ. От классовой борьбы современные большевики тоже не отказались. Хотя разжигание классовой розни не менее преступно, чем религиозной, национальной или расовой.

Как угораздило наших демократов оказаться в одной связке с «красными», объяснить способна разве что психиатрия, но никак не политология. Воспаленное воображение либеральных политиков, страдающих редким сочетанием мании величия с комплексом неполноценности, рисовало греющие душу картины совместной борьбы против супостата. Все это сопровождалось навязчивым бредом о необходимости объединения всех имеющихся в наличии противников Лукашенко. Довершали эту параноидальную картину митинги, на которых бело-красно-белые флаги соседствовали с красно-зелеными.

Я не знаю, какие ощущения испытывали другие участники этих акций, поэтому скажу о своих. Для меня бело-красно-белый флаг — это историческая святыня нашего народа, а красно-зеленое полотнище — символ его палачей и поработителей. Даже просто находиться рядом с ним противно. Еще омерзительнее было видеть, как наши «столпы демократии» с заискивающим видом уступали место на трибуне коммунистическим лидерам, которые в одночасье стали чуть ли не главными защитниками гражданских свобод. Думаю, подобные чувства испытывал не я один.

**СЕГОДНЯ** правомерен вопрос: ради чего все это делалось? Чтобы присутствовать при бездарной сдаче вся и всех в ночь с 21 на 22 ноября 1996 года? Или чтобы участвовать в бесплодных посиделках осколков Верховного Совета тринадцатого созыва? А может быть, чтобы наблюдать, как коммунисты, изнемогшие от тягот оппозиционной жизни, один за другим возвращаются во властные структуры?

Впрочем, все это уже неважно. Эти вещи останутся на совести пожилых идеалистов, которые ради будущего Беларуси «сотрудничали и с красными, и с малиновыми», при этом заявляя, что «их осознание национальной идеи и создает тот самый прочный фундамент для независимости». При этом «недостаточно информированного» журналиста Старикевича обвинили в том, что, «сея раздор в рядах оппозиции» (то есть ставя под сомнение целесообразность союза с коммунистами), он помогает режиму Лукашенко. Нас рассудило время.

**ПОДВОДЯ ИТОГИ** деятельности так называемой «объединенной оппозиции», полезно обозначить роль коммунистов. Как известно, большинство из них перебежало к Лукашенко либо сразу после референдума, либо еще раньше. Оставшиеся быстренько соорудили себе по терновому венцу на брата и приняли новые правила игры.

*Верховный Совет был доведен до состояния клинической смерти именно усилиями «красных»*

Заключались они в следующем. Как известно, единственное принципиальное разногласие коммунистов с Лукашенко заключалось в том, кто из них будет командовать парадом. Президент к тому времени заматерел и делиться властью ни с кем не предполагал. В свою очередь, коммунисты, помня о собственном первородном праве на возрождение социализма в обновленном СССР, тоже никак не соглашались ходить в подчиненных у вчерашнего директора совхоза.

Ясно, что проигравшие должны были заплатить за свое фиаско. В советские времена опальных чиновников отправляли в «ссылку» на какую-нибудь малопрестижную и не слишком хлебную должность. В нашем случае местом отбывания наказания стала оппозиция.

Мне абсолютно все равно, занимались коммунисты сознательным саботажем в антипрезидентских структурах или виной всему их природная бездарность. Важен результат. Тот же Верховный Совет доведен до состояния клинической смерти именно усилиями «красных».

**ПОСКОЛЬКУ** в оппозиционных кругах правилом хорошего тона стала полная амнезия, я позволю себе обратить внимание интересующихся на некоторые забавные совпадения. На очередном заседании в гостинице «Юбилейная», когда депутаты мучительно решали вопрос о том, признавать им себя Верховным Советом или нет, особо отличились двое: Станислав Шушкевич и Петр Кравченко. Первый всегда был абсолютным профаном в политике, чего нельзя сказать о втором. В характерной для себя вкрадчивой манере Кравченко (в то время социал-демократ, а еще ранее секретарь Минского горкома КПБ), использовав ряд авторитетных мнений, объяснил присутствующим, почему делать этого никак нельзя. Вскоре после этого он отбыл в Токио в качестве посла режима, с которым еще вчера якобы был на ножах.

Заслуги Василия Новикова, по всей вероятности, оказались менее значительными. Ему обломился лишь скромный пост советника в Молдавии. Можно было бы и щедрее вознаградить очередного перебежчика: все-таки руководимая им партия на протяжении, считай, двух лет успешно вставляла палки в колеса всем оппозиционным начинаниям, в которых участвовала. Происходило это всегда по одному и тому же сценарию. Как только представители демпартий робко выдвигали какую-либо инициативу, связанную с конкретными действиями против Лукашенко, коммунисты тут же поднимали вой по поводу того, что для них это неприемлемо, и в целях сохранения единства нужно оставить все по-прежнему. Либералы, которые носились с идеей объединенной оппозиции как с писаной торбой, традиционно шли на поводу у «красных». Теперь последние наглядно демонстрируют свою верность идеалам свободы и борьбы с диктатурой.

Так что, постепенный исход коммунистов из оппозиции во властные структуры можно считать плановым. Эта ситуация действительно не парадоксальная, не скандальная, не интригующая, а совершенно естественная. Нет сомнений в том, что в новом статусе реальность ими будет отражаться и доходчиво, и ярко. Уж они не поленятся... Ведь зарабатывать на существование для каждого сегодня принципиально.

Всех остальных при этом держат за идиотов. Дескать, никто никакими принципами не поступался, все назначения инспирированы министерством иностранных дел чуть ли не в тайне от президента. Отходчивый Лукашенко, видимо, простил и забыл своих противников. Правда, доселе он в чрезмерном благородстве замечен не был. К слову, многократно обруганные Пазьняк и Наумчик до сих пор не на посольских должностях числятся, а на белорусских границах находятся в списке «задержать при въезде-выезде».

**НО ВЕРНЕМСЯ** к Новикову. Слезы сострадания катятся из глаз, когда читаешь его откровения газете «Имя». Оказывается, человеку, всю свою сознательную жизнь просидевшему в парткомах и президиумах и потому более ничего не умеющему, в течение двух лет никто не предложил ничего адекватного. Жить все это время ему приходилось за счет родни, хотя, насколько я информирован, руки, ноги и голова у секретаря ПКБ целы, чего уже достаточно, чтобы не быть иждивенцем. Но как же такая белая кость пойдет работать? Гораздо легче податься на содержание к Лукашенко.

*Когда на страницах изданий, ориентированных на демократические ценности, появляется коммунистическая пропаганда — это не свобода печати. Это свобода от ума*

Мало того, случай с Новиковым задержавшиеся в оппозиции большевики пытаются использовать для шантажа. Уже запущена в обиход недвусмысленная угроза: если «жирные коты из ОГП» не начнут финансировать ПКБ, то и остальные коммунисты вспомнят, что они сплошь по своему менталитету созидатели, и перебегут к президенту, после чего президиум Верховного Совета лишится кворума. Хороши союзнички.

Нет ничего проще, чем оправдать собственное предательство. Всегда под рукой найдутся веские доводы, мотивировки высокими целями и прочая шелуха. Но когда за коммунистов это начинают делать другие... То же «Имя» в предисловии к интервью Новикова пишет: *«Коммунисты редко меняют свои убеждения. За последовательность их стоит уважать. Так что пусть Новикова осуждают другие...»*

Это уже даже не детская болезнь «левизны», а полная потеря ориентации в пространстве. Видимо, сказывается злоупотребление «Белым аистом» и прочими дарами молдавской земли. Как много нового все-таки можно узнать из газет: оказывается, Новиков не трус и предатель, а герой нашего времени.

**О НАШЕЙ** либеральной прессе в этой связи разговор особый. То же «Имя» — случай уникальный, чтоб не сказать клиническим. Когда на страницах изданий, ориентированных на демократические ценности, появляется коммунистическая пропаганда — это не свобода печати. Это свобода от ума.

Так, Виктор Чикин для «Имени» — «свой мужик», последовательный коммунист, коммунист-обновленец, простой, человечный, высокий, вальяжный, спокойный, жизнелюб. Василий Новиков — милейший человек и последовательный коммунистический философ, сделавший выбор в пользу закона. Всеволод Янчевский — профессионал и практически неизбежно второй президент Беларуси. И так далее в том же духе.

Над всем этим можно просто посмеяться. Но почему-то не смешно, когда независимые газеты бесплатно рекламируют людей, разрушающих белорусское государство. Особенно активно пользуется таким, с позволения сказать, плюрализмом один бывший комсомольский секретарь. С удовольствием размещающее его на своих страницах «Имя» как-то даже закатило истерику по поводу того, что «Народная воля» осмелилась отказаться от публикации очередного опуса Федуты.

Доходит до абсурда. Человек, который угробил тогда еще прогрессивную газету «Знамя юности», имеющий на своей совести «белые пятна», а также славный другими подвигами по части средств массовой информации, какое-то время специализировался в бюллетене Белорусской ассоциации журналистов на вопросах профессиональной этики! Приехали.

А потом все дружно начинают удивляться некоторым профессиональным этическим навыкам экс-комсомольца. Станислав Богданкевич сокрушается: *«Федута и ОГП критиковал, и врал порой насчет нас беспардонно. Например, придумал байку, что мы якобы поехали в Москву сразу к Чубайсу, Лебедю и Явлинскому и все трое нас отфутболили. Не было этого».* Но затем, спохватившись (не обидел ли кого), добавляет: *«Пусть пишет все, что считает нужным. Мы за свободу слова не только в отношении наших оппонентов».*

Уважаемый Станислав Антонович, ничего общего со свободой слова вранье и подтасовка фактов не имеют. Это свобода провокации — искусство, которым в компартии и комсомоле овладевали досконально. Один из освоенных методов раскрыл сам Федута в ответе Пазьняку: *«Сегодня Вы постеснялись написать об этом* (кстати, вот уж чего не замечал за лидером БНФ, так это чрезмерной стеснительности — **А.С.**), *приходится дописывать за Вас».* И дописывает по сей день. Хотя единственный человек, от имени которого Федута может что-либо провозглашать, это он сам. Кстати, когда он пишет о себе, иногда получается совсем неплохо: *«На нас и так клейма негде ставить».* С этим трудно не согласиться.

Возможно, некоторым нравится витиеватый стиль изложения, характерный для отдельных партийных пропагандистов. Но не стоит забывать, что дерьмо, даже если оно выглядит как масло, все-таки остается дерьмом.

Последнее относится и в целом к «самой гуманной идее», людоедской сущности которой все еще пытаются придать привлекательный вид. Но коммунистам, как и фашистам, нет места в политическом спектре. На беспредельщиков, уничтоживших десятки миллионов невинных людей, нормы демократии не распространяются.

Порочны по сути уже сами дискуссии о том, является ли коммунизм злом. Те, кто сомневается в этом, видимо, давно не бывали в Курапатах. И уж верхом кощунства являются утверждения, будто бы коммунистическая идея базируется на христианских ценностях, и вся беда в том, что ее исказили Сталин, Берия и прочие.

**ГОВОРЯТ,** что нынешнее поколение коммунистов не несет ответственности за злодеяния своих предшественников. Неправда. В советские времена от рядовых членов КПСС скрывались основные «подвиги» партии. Но после того, как информация о коммунистических преступлениях стала общедоступной, каждый, кто вступает в ряды этой партии, добровольно принимает на себя долю вины за массовые убийства и концлагеря. Коммунизм в нашем обществе существует не в виде абстрактной идеи, а во вполне конкретных формах своей реализации.

Поэтому аргументы типа «они же лично не расстреливали» теряют всякий смысл. Тем более, что эта партия ни в чем не раскаялась и ни от чего не отказалась. Все те же постулаты, что и восемьдесят лет назад, разве что в слегка подредактированном виде.

«Красная колонна» продолжает свою разрушительную деятельность в Беларуси. Она является составной частью тех сил, которые нацелены на уничтожение нашего государства. Это единственный принцип, от которого большевики не отступят никогда.

**Александр СТАРИКЕВИЧ**

